**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

17 (577) 28 красавіка 2011 года

Кошт свабодны.

**Глыбоцкі раён**

# Лепшая і ў Беларусі

■ Станіслаў Раманчук.

**Апошнім часам дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы і ў нашай краіне стаў актыўна развівацца аграэкатурызм, аб чым узгадвалася днямі ў Мінску на спецыялізаванай міжнароднай канферэнцыі.**

На ёй адначасова былі падведзены вынікі нацыянальнага конкурсу "Лепшая аграэкасядзіба Беларусі 2010 года". Як і раней у абласным цэнтры ў адной з пяці галоўных намінацый "Зялёная сядзіба" перамога дасталася гаспадыні сядзібы з вёскі Валодзькава Юліі Бука з Глыбоцкага раёна. Яна паставіла некалькі гадоў назад перад сабой задачу стварыць на вёсцы ўтульную атмасферу адпачынку ў экалагічна чыстым асяроддзі, у якой здаўна шчасліва жылі нашы продкі. Пры дапамозе дзяцей гэтай актыўнай жанчыне ўдалося давесці да ладу некалькі вясковых хат старой пабудовы і даваеннай планіроўкі. На гэтай сядзібе ў цёплы перыяд года ўсё так міла і прыгожа, патанае ў зеляніне і кветках. Як і за мяжой, гасцей можна прымаць на некалькі дзён нават цэлымі групамі, пачаставаць здаровай натуральнай ежай. Вельмі добра, што для беларускамоўных турыстаў "Гасцявога дома Юліі Бука" ўстаноўлены пэўныя зніжкі на побыт. Госці, пабываўшыя тут, заўсёды адчуваюць сябе ўтульна і камфортна, адпачываюць душой. Усе пераможцы чарговага рэспубліканскага конкурсу акрамя маральнага прызнання атрымалі і грашовыя ўзнагароджанні ў памеры па 3 мільёны рублёў кожны і надалей стануць развіваць спадчынну продкаў у сельскай мясцовасці.



**Пастаўскі раён**

# Сэрца, адданае дзецям

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў праблемай для грамадства застаецца сацыяльнае сіроцтва.**

Таму і ў Пастаўскім раёне спачатку дзіцячы сацыяльны прытулак з'явіўся ў гарпасёлку Варапаева, па суседству з існаваўшай тут спецшколай-інтэрнатам. Потым яго перавялі ў райцэнтр, дзе да свайго расфарміравання была таксама школа-інтэрнат для абдзеленых лёсам дзяцей. Інтэрнат расфарміравалі, а прытулак жыве і ў яго расце колькасць спонсараў і шчырых сяброў. Адным з іх стаў нават грамадзянін Вялікабрытаніі спадар Джэрры Кубіца. Яго пасля выхаду на пенсію пацягнула на сваю маленькую Радзіму, бо брытанец нарадзіўся ў Паставах і пражыў тут год, пакуль сям'я не выехала ў эміграцыю на туманны Альбіён. Добрая пенсія дазваляе дзеду Джэрры, у якога самога пяцёра ўнукаў, падарожнічаць па Еўропе і займацца дабрачыннай дзейнасцю. Напярэдадні светлага свята Уваскрасення Хрыстовага англічанін у чарговы раз прыехаў сюды з падарункамі для дзетак, вымушаных жыць у казённых сценах. Ужо немалады чалавек прывёз ім салодкія падарункі і так патрэбныя ў іх узросце фрукты. Дарэчы, так паступае англійскі госць ужо пяты год запар, стараецца праведаць мясцовых хлопчыкаў і дзяўчынак вясной і яшчэ восенню. Ягоны тата быў карэнны пастаўчанін, мама ўраджэнка Вільні, на старых гарадскіх могілках знайшоў у гады вайны свой вечны спачын ягоны дзед. На памяць ад гэтага візіту павёз Кубіца дамоў фотаздымкі з удзячнымі тварыкамі маленькіх беларусаў.

**Браслаўскі раён**

# На валаску ад гібелі

■ Чэслаў Якубовіч

**У цэлым па вобласці летась колькасць пажараў скарацілася, хоць яны забралі ў 2010 годзе жыцці 241 жыхара і прынеслі 6 млрд. рублёў матэрыяльных страт.**

Сумна, але рост вогненных здарэнняў з гібеллю людзей закрануў і адзін з самых прыгожых у краіне Браслаўскі раён. У азёрным краі, як і ў бліжэйшых суседзяў, трагічныя смерці адбываліся па прычыне алкагольнага ап'янення, і нябожчыкі самі з'яўляліся віноўнікамі такіх бед. Гэта страшная статыстыка днямі, перад Вербнай нядзеляй цудам не папоўнілася яшчэ адной трагедыяй на Браслаўшчыне. На гэты раз у самім райцэнтры гаспадар дома таксама выпіў да такой ступені, што не заўважыў, як кінуў на падлогу непатушаную цыгарэту. На падпітку браслаўчаніна пацягнула спаць і ён, зразумела, не мог бачыць, як кватэру зацягнуў дым і пачаўся пажар. На шчасце, у гараджаніна аказаліся пільныя суседзі, якія заўважылі гэта і выклікалі на паратунак пажарных. Дапамога паспела своечасова, а выратавальнікі мясцовага падраздзялення МНС вынеслі пацярпелага з ахопленага агнём будынку. Небарака атрымаў апёкі цела, наглытаўся едкага дыму. Ён атравіўся і ўгарным газам, але Госпад, напэўна, пажалеў яго. Пацярпелы будзе лячыцца далей ў бальніцы і добра, калі ўсвядоміць, што адбылося. Тым часам, аналагічным чынам у той самы дзень ледзь не загінуў і жыхар пасёлка Фарынава, паблізу Полацка. Беларусы павінны ўсвядоміць, што амаль 90 % пажараў і гібелі людзей на іх цяпер адбываецца па віне саміх пацярпелых у стане алкагольнага ап'янення.

# Лічба нумара

## 13.240

- столькі мільярдаў рублёў склаў у 1-м квартале сёлета ў Беларусі рознічны тавараабарот. Ён павялічыўся ў параўнанні з мінулым годам амаль на чвэрць, на 24,9 %. З аднаго боку гэта павінна было б толькі радаваць, паколькі, па дадзеных статыстыкі, айчынная эканоміка развіваецца, зафіксаваны нават рост ВУП на 11 %, складскія запасы за тры месяцы скараціліся таксама на чвэрць. А прадпрыемствы Мінпрама РБ мелі нават прафіцыт знешняга гандлю на суму амаль 0,7 млрд. долараў.

Аднак нават беларускі лідар вымушаны быў прызнаць, што склалася абсурдная сітуацыя, калі каменціраваў ажыятаж ў беларускай сталіцы і некаторых гарадах з шэрагам прадуктаў харчавання. Пакуль відавочна адно, што на фоне адмоўнага сальда знешняга гандлю ( болей чым на 1,5 млрд. USD ) насельніцтва, не маючы магчымасць канверціраваць свае заробкі, кінулася скупляць тавары. З пачатку года больш чым на 20 % зафіксаваны рост рознічнага гандлю.

Адначасова беларусы сутыкнуліся з самай непрыемнай з'явай, адчувальным ростам цэн. На сярэдзіну красавіка інфляцыя ў нашай краіне перавысіла ніжні парог на гэты год – 7,5 %. Нагадаем, што на канец 2011 года такі індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі насельніцтву быў вызначаны ў памеры – 8,5 %. Сітуацыя на ўнутраным валютным рынку стала проста тупіковай, і народ паваліў у крамы. У гэтым годзе заўважаны самы вялікі попыт на будматэрыялы, рост прадаж якіх дасягнуў 48,4 %. Зразумела, і на харчаванне людзі не шкадавалі грошы, бо яго прададзена сёлета на 33,2 % болей, чым летась ( на 9,02 млрд. рублёў).

Таксама з паліц магазінаў найбольш актыўна знікалі халадзільнікі і маразільнікі – на 38,7 %, верхні трыкатаж – 25,5 %, абутак – 24, 3 % і верхняе адзенне – на 21,1 %. Калі адбылася трагедыя з гібеллю людзей у Мінскім метро, на нейкі момант стала спакайней у гандлёвых цэнтрах. Перад гэтым Міністэрства гандлю прыгразіла штрафамі дырэктарам 17 сталічных магазінаў, дзе на паліцах у продажы адсутнічаў цукар і алей. З-за ўзнікшай панікі мінчане перад гэтым штодзённа сталі скупляць пра запас да 250 тон салодкага прадукту замест звычайных аб'ёмаў 60 тон.

З цукрам вырашылі праблему, бо яго запасаў у Беларусі багата. У сталіцу адразу завезлі яго 700 тон, усе патрэбнасці жыхароў і гасцей сталіцы былі задаволены, і цана прадукту засталася нязменнай – 3600 рублёў за 1 кг. А вось з алеем сітуацыя не такая спрыяльная для спажыўцоў, цэны на яго выраслі прыкладна да 50 % нягледзячы на тое, што і дэфіцыт гэтага прадукта краіне не пагражае. У перыяд ажыятажу мінчане расхоплівалі алей да 100 і болей тон у дзень, бо, па разліках шэрагу імпарцёраў, масла са сланечніка можа падаражэць да 12 тысяч рублёў за літровую бутэльку.

Гэта абумоўлена тым, што Міністэрства эканомікі РБ адмяніла для іх ранейшыя абмежаванні (30%) аптовых надбавак. Але іншага выйсця няма, бо валюту фірмы-імпарцёры на біржы могуць набываць з цяжкасцю і ўжо дзесьці па 4500 рублёў за долар. Тут выйсце адно: спыняць закупкі і пастаўкі алею, калі не павышаць цэны. Бізнес апынуўся ў нялёгкай сітуацыі, шэраг дробных фірм можа спыніць сваю дзейнасць, бо пакупніцкая здольнасць людзей абмежаваная, калі на ўсё растуць цэны, падае ўзровень жыцця.

Увогуле ўпраўленцам зараз можна толькі паспачуваць, бо паўстае праблема дэвальвацыі беларускага рубля, валюты няма, перад прамысловасцю паўстала праблема калапсу, калі іх абавязваюць прадаваць увесь аб'ём валютнай выручкі на біржы. У ранейшага донара дзяржбюджэту "Белнафтахіма" у 1-м квартале былі праблемы і страты ў нафтаперапрацоўцы. Відавочна, што Беларусі прыйдзецца пайсці на непапулярныя меры, найперш на жорсткую эканомію бюджэтных расходаў, а там і нейкая дэвальвацыя беларускага рубля не за гарамі. З няпростай сітуацыі, якая цяпер складваецца, трэба будзе знайсці нейкі выхад. Беларускі бізнес, замежныя інвестары ў чаканні нармалізацыі абстаноўкі на валютным рынку, краіна чакае крэдыту ад РФ, а людзям паабяцалі яшчэ адзін рэспубліканскі суботнік, бо аднаго аказалася ўжо мала.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 28.04.11 | | | | пятн. 29.04.11 | | | | сб. 30.04.11 | | | | нядз. 01.05.11 | | | | пн.02.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +7 | +14 | +19 | +14 | +7 | +10 | +15 | +10 | +6 | +8 | +13 | +10 | +4 | +8 | +10 | +8 | +2 | +5 | +10 |
| Ціск, мм | 750 | 751 | 750 | 750 | 751 | 752 | 751 | 751 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 748 | 749 | 749 | 749 |
| Вільготнасць, % | 85 | 78 | 49 | 60 | 70 | 59 | 29 | 40 | 62 | 64 | 37 | 44 | 67 | 63 | 60 | 63 | 80 | 79 | 48 |
| Вецер м/сек | С-З 1 | С 1 | С-В 2 | С-В 3 | С-В 4 | С-В 3 | С-В 4 | С-В 3 | С-В 4 | С-В 4 | С-В 3 | С-В 2 | С-В 3 | С-В 4 | В 5 | В 4 | С-В 4 | С-В 6 | С-В 6 |
| | | 05:37 | 20:38 | | | 05:34 | 20:40 | | | 05:32 | 20:42 | | | 05:30 | 20:44 | | 05:28 | 20:46 | |

## Дзень за днём

**Пасля ўзнікшай пакупніцкай панікі Міністэрства гандлю Беларусі афіцыйна абвергла чуткі аб новым рэзкім павышэнні цэн на цукар і алей. Расійскі газ зноў з красавіка падаражэў для беларусаў яшчэ на 6 % да 244,7 $ за тысячу кубаметраў, выраслі цэны на асобныя маркі цыгарэт. Толькі ў сакавіку ўклады насельніцтва ў беларускіх банках зменшыліся на 1,2 трлн. рублёў. Калі летась Нацбанк РБ шэсць разоў паніжаў стаўку рэфінансавання па 0,5 %, то з 20 красавіка яна зноў павялічылася да 13 % гадавых. Армейскі дысбат збіраюцца замяніць арыштам тэрмінам да 6 месяцаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Ад беларускіх улад канцэрну "Газпрам" паступіла прапанова аб магчымым продажы часткі дзяржпакета акцый "Белтрансгаза", абмяркоўваюцца параметры магчымай здзелкі.

**Ізраіль.** Пасля абстрэлу баявікамі руху Хамас ізраільскага школьнага аўтобуса ВПС краіны знішчылі авіяўдарам аднаго з камандзіраў палесцінскіх экстрэмістаў у сектары Газа.

**Егіпет.** Пракуратура краіны затрымала на 15 сутак экс-прэм'ера Ахмеда Назіфа па справе падзей на плошчы, на допыт выклікаліся сыны экс-прэзідэнта Хосні Мубарака і ён сам.

**Францыя.** На закрытых слуханнях па сітуацыі ў Беларусі Парламенцкая асамблея Савета Еўропы выказалася за спыненне кантактаў высокага ўзроўню з беларускімі ўладамі.

**Польшча.** Адзін з распрацоўшчыкаў Закона аб карце паляка Міхал Дворчык заявіў, што гэты дакумент і ў Беларусі цалкам адпавядае еўрапейскаму праву і міжнародным законам.

**Люксембург.** Развіццё сітуацыі ў Беларусі і далейшыя эканамічныя санкцыі ў адносінах да яе абмеркавалі тут на пасяджэнні свайго Савета міністры замежных спраў Еўрасаюза.

**ЗША.** У аэрапорце Нью-Йорка імя Д. Кенэдзі пры пасадцы невялікі самалёт сутыкнуўся з велізарным аэробусам А-380 кампаніі Air-France, ніхто з пасажыраў не пацярпеў.

**Украіна.** Вялікі дэсантны карабль ВМС краіны даставіў у порт Севастопаля амаль дзве сотні беженцаў з ваюючай Лівіі, з іх 85 украінцаў і 118 грамадзян іншых дзяржаў СНД.

**Расія.** Прэм'ер-міністр У. Пуцін паабяцаў, што Масква ўвядзе меры абароны ў адказ у гандлі з Кіевам, калі Украіна і ЕС створаць зону свабоднага гандлю на ўмовах СГА.

**Францыя.** Жанчынам-мусульманкам краіны забаранілі з'яўляцца ў грамадскіх месцах у паранджы, якая хавае іх твар, за гэта ўвялі штраф 150 еўра і меры ўздзеяння на іх мужоў.

**Казахстан.** Нязменны прэзідэнт Н. Назарбаеў абверг інфармацыю аб датэрміновых парламенцкіх выбарах, дэпутатаў мажылісу тут будуць выбіраць у 2012 годзе.

**ЗША.** Увесь поўдзень краіны захапіла спёка, у штаце Тэхас з-за яе ўзніклі моцныя лясныя пажары, згарэлі дзясяткі дамоў, на поўначы разбушаваўся ўраганны вецер тарнада.

**Польшча.** Краіну назвалі "зялёным востравам" Еўропы за тое, што падчас крызісу яна найбольш у ЕС павысіла ВУП, заробкі ў палякаў перавысілі 3,5 тыс. злотых (1200 $).

**Германія.** Каля горада Ростака падчас моцнай пясчанай буры сутыкнуліся адразу 80 аўтамабіляў, у найбуйнейшым ДТЗ за 20 гадоў загінулі 8 і яшчэ 139 чалавек былі ранены.

**Італія.** Поўнач краіны накрыла рэкордная для красавіка месяца гарачыня з тэмпературай паветра 31 градус і пабіла ранейшы існаваўшы тут рэкорд 40-гадовай даўніны.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Вядомы расійскі эканаміст, былы дарадца У. Пуціна Андрэй Іларыёнаў заявіў, што Расія цяпер рэальна пагражае эканамічнаму і палітычнаму суверэнітэту Беларусі.

**Мазыр.** Па максімальнай загрузцы (100 %) стаў працаваць мясцовы НПЗ, умовы паставак нафты з Венесуэлы і сёлета з Расіі выгадныя.

**Мінск.** У рэспубліканскім цэнтры "Кардыялогія" ўрачы паспяхова зрабілі вельмі складаную аперацыю на сэрцы з заменай клапану старшыні Нацбанку РБ П. Пракаповічу.

**Гродна.** Мясцовая міліцыя перайшла на ўзмоцнены варыянт нясення службы з-за павышанага попыту на аўтамабілі, штодзень на ўлік ставяць да 700 увезеных іншамарак.

**Мінск.** Крымінальная справа па абвінавачванню экс-кандыдата ў прэзідэнты У. Някляева склала 29 тамоў, іншых абвінавачаных А. Саннікава – 8, а Д. Уса – усяго паўтома.

**Пінск.** Ганаровы жыхар горада, экс-дырэктар холдынга "Пінскдрэў" Лаван Арыніч, абвінавачаны па справе моцнага выбуху летась, з'ехаў на лячэнне за межы Беларусі.

**Ліда.** На аўтобусным заводзе "Нёман" у маі пачнуць серыйна выпускаць новыя школьныя аўтобусы з маячкамі і іншымі патрабаваннямі тэхнікі бяспекі пры перавозцы дзяцей.

**Мінск.** Вядомы беларускі спартсмен, прызёр Алімпійскіх гульняў Васіль Капцюх падчас тэракту ў метро сталіцы страціў свайго 21-гадовага сына Рамана, студэнта каледжа.

**Навагрудак.** Паблізу райцэнтра ўзвялі самую вялікую ў РБ ветраэнергетычную ўстаноўку магутнасцю 1.5 МВт вышынёй 125 метраў на высокай горцы 315 м над узроўнем мора.

**Гомель.** На працягу 2-х дзён у горадзе знаходзіўся пасол Францыі ў РБ Мішэль Рэнеры, пабываў на службе ў касцёле, адкрыў французскую мастацкую выставу "Вада і скала".

**Мінск.** У спісе ганаровых дактароў навук сталічнага дзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі не стала лідара Лівіі М. Каддафі, тут вучацца 18 лівійскіх аспірантаў.

**Маладзечна.** Да "Дажынкаў" мясцовыя ўлады вырашылі прыбраць помнік у цэнтры "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусь", устаноўлены яшчэ пры мэру Г. Карпенку.

**Мінск.** Эканамічныя цяжкасці сёлета – яшчэ кветачкі, папярэдзіў першы старшыня Нацбанку РБ С. Багданкевіч, цяжэй стане ў 2012-2013 гадах з-за выплат вялізных даўгоў.

**Гродна.** Пракуратура арыштавала і ўзбудзіла 2-ю па ліку крымінальную справу супраць журналіста Андрэя Пачобута за быццам абразы і паклёп на дзеючага кіраўніка Беларусі.

**Вілейка.** Мясцовы краязнаўца Анатоль Капцюг прадставіў доказы, што тут нарадзіўся, як шляхціц, беларускі першадрукар Іван Фёдараў у двары Ашмена Віленскага павета.

## Пашыраюцца магчымасці атрымання аднаразовых субсідый на жыллё



■ БелТА

**Як паведамілі ў прэс-службе прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка 22 красавіка падпісаў указ нумар 172, якім уносяцца змяненні і дапаўненні ў некаторыя ўказы кіраўніка дзяржавы.**

Дакумент накіраваны на далейшае ўдасканаленне ўмоў і механізму аказання дзяржаўнай падтрымкі грамадзянам пры будаўніцтве (рэканструкцыі) або набыцці жылых памяшканняў, а таксама парадку прадастаўлення і выкарыстання службовых памяшканняў дзяржаўнага жыллёвага фонду.

Указам пашыраюцца магчымасці атрымання аднаразовых субсідый для маладых сем'яў, а таксама грамадзян, якія пастаянна пражываюць і працуюць у сельскай мясцовасці, не маюць пазачарговага права на прадастаўленне аднаразовых субсідый на будаўніцтва (рэканструкцыю) або набыццё жылых памяшканняў. Гэтым катэгорыям грамадзян выплата аднаразовых субсідый на пагашэнне запазычанасці па льготнаму крэдыту будзе праводзіцца не ў працэсе будаўніцтва (рэканструкцыі) або набыцця жылога памяшкання), а пасля ўводу дома ў эксплуатацыю (набыцця жылога памяшкання) роўнымі долямі ў тэрміны, устаноўленыя крэдытным дагаворам. Гэта дасць магчымасць пашырыць колькасць атрымальнікаў гэтай дзяржаўнай падтрымкі.

Дакументам здымаецца абмежаванне тэрміну звароту грамадзян (пры наяўнасці ўстаноўленых заканадаўствам падстаў) па перадачу ва ўласнасць на платнай аснове ў адпаведнасці з законам «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» службовых жылых памяшканняў дзяржаўнага жыллёвага фонду, прадастаўленых ім ва ўстаноўленым парадку да 8 красавіка 2006 года. Разам з тым службовыя жылыя памяшканні дзяржаўнага жыллёвага фонду, прадастаўленыя пасля 8 красавіка 2006 года, па-ранейшаму не будуць падлягаць выключэнню са складу службовых і прыватызацыі.

Указам прадугледжваецца магчымасць аплаты кошту перадаваемых службовых жылых памяшканняў дзяржаўнага жыллёвага фонду ў растэрміноўку на 20 гадоў пры ўмове ўнясення першапачатковага ўзносу ў памеры не менш як 10 працэнтаў іх кошту.

Указ уступае ў сілу з 1 ліпеня 2011 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Мёры.** З 5 жыхароў вобласці адразу 2 землякі з райцэнтра, 19-гадовая Юлія Шокель і 20-гадовы Андрэй Люцкі пасля выбуху на станцыі метро ў Мінску трапілі ў бальніцу

**Віцебск.** Трамвайнае дэпо папоўнілася сёлета ўжо 3 новымі сучаснымі машынамі айчыннага завода "Белкамунмаш" са зручнасцямі для інвалідаў, за год іх стане тут 20.

**Верхнядзвінск.** Хоць і паднялася вада на Заходняй Дзвіне ў раёне горада да небяспечнага ўзроўню, але адсяляць людзей не прыйшлося, вада затапіла па вобласці 7 мастоў і дарог.

**Полацк.** На базе горада і суседняга Наваполацка прайшло выязное пасяджэнне экспертнага савета пры Саўміне Беларусі, разглядаліся пытанні развіцця турбізнеса ў РБ.

**Лепель.** Па рашэнню раённых улад з мясцовага бюджэту сталі выплачваць даплаты да пенсіі ў суме 175 тыс. рублёў штомесяц усім доўгажыхарам ва ўзросце 100 і болей гадоў.

**Глыбокае.** Толькі летась у раёне ў прыватным сектары стварылі яшчэ 192 новыя рабочыя месцы, недзяржаўныя крамы забяспечылі амаль палову ўсяго таваразвароту рэгіёна.

**Віцебск.** Мясцовы філіял №5 ААТ "Мостбуд" атрымаў значны заказ (100 млрд. рублёў) на пабудову маста праз раку Днепр на ўчастку магістральнай аўтадарогі Мінск- Гомель.

**Полацк.** На 16 мая суд горада Даўгаўпілса (Латвія) прызначыў разгляд справы аб праве ўласнасці на спрэчную тэхналагічную нафту ў нафтаправодзе Полацк - Вентспілс.

**Лёзна.** Падчас другой хвалі веснавой паводкі вёска Кучыншчына з 10 пажылымі жыхарамі стала востравам, сувязь з "вялікай зямлёй" для іх падтрымлівалі супрацоўнікі МНС.

**Орша.** У мясцовую калонію строгага рэжыма №8 перавялі Васіля Парфянкова, асуджанага на 4 гады зняволення самым першым па справе аб масавых беспарадках на плошчы.

**Браслаў.** На беразе ляснога возера Волас (раней ландшафтнага заказніка) у 6,5 км ад райцэнтра ўзводзіцца туркомплекс з 5 дамоў і пристанню для кіраўніцтва Беларусі.

**Полацк.** Па прыгавору суда дырэктар прыватнай будаўнічай фірмы асуджаны на 8 гадоў з канфіскацыяй маёмасці за махлярства і невяртанне 376 млн. рублёў доўгу яе кліенту.

**Паставы.** На тэрыторыі туркомплексу "Азёркі" каля райцэнтра на Пасху адкрылі першы ў РБ помнік расфарбаванаму велікоднаму яйку вышынёй 2 метры разам з пастаментам.

**Глыбокае.** Выдатна выступіла на рэспубліканскай алімпіядзе вучаніца 11 класа Плiскай СШ Саша Піліпёнак, яна заваявала дыплам 1-й ступені па беларускай мове і літаратуры.

**Шаркоўшчына.** У рацэ Дзісна ледзь не патануў мужчына на моцным падпітку, але тапельца ўбачылі людзі і выклікалі яму на дапамогу выратавальнікаў райаддзела МНС.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, —
Удзірванелы курган векавечны.

Дуб галлё распусціў каранасты над ім,
Сухазелле ў грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім, —
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.

*Янка Купала, "Курган"*

# У Шэпелеве жылі волаты...



■ Уладзімір Скрабатун

**– Чытала ваш матэрыял "Вялікія людзі прыплылі здалёку, тут жылі, тут і пахаваныя" *,– кажа аўтару гэтых радкоў жыхарка вуліцы Мінскай у Глыбокім Лілія Аляксандраўна Брылёнак. А ведаеце, падобнае пахаванне некалі знайшлі і ў Шэпелеве…**

**У.С.:** То цікава было б Вас паслухаць. Распавядзіце, калі ласка.

**Л.Б.:** Зараз дакладна і не ўзгадаю: ці я вучылася ў пятым, ці ў шостым класе, але было гэта ў самым пачатку 1960-ых гг. Жылі мы тады ў Шэпелеве. І была тут, каля млына, вялікая гара, якая абрывам спускалася да ракі Мнюты, да старога яе рэчышча. З-пад той гары бруіла крыніца, з якой мы часта ваду пілі. Малако там у сцюдзёнай вадзе трымалі.

Гара тая была леваруч, як ісці ад цэнтральнай вуліцы Шэпелева па дарожцы ў бок млына, там дзе агарод Пузырэўскіх (там цяпер іншыя людзі жывуць). Праваруч жылі мы.

У той час пачалі будаваць мост і адсыпаць дарогу, бо яна ішла дужа нізка-нізка. Дзеля гэтага і пачалі ссоўваць бульдозерам тую гару на дарогу.

Пад час гэтых земляных работ раптам агаліліся чалавечыя косткі. Шкілет належыў чалавеку неверагоднага росту… А жыў у нашай вёсцы такі Шпакоўскі, вельмі высокі чалавек, якога па росту можна было параўнаць з расейскім царом Пятром І-ым. Дык той, хто быў пахаваны на гэтай гары, па росту быў значна вышэйшы за Шпакоўскага.

Мой тата Аляксандр Пятровіч Мірош, 1905 г.нр. быў цікаўным чалавекам: кніжкі з бібліятэкі браў чытаць, і людзі прыходзілі да яго за парадай. Ён такіх людзей-веліканаў называў волатамі.

У Шэпелеве некалі жыў граф Берастоўскі. Тата распавядаў, што графа ў час рэвалюцыйных падзеяў забілі і спалілі разам з маёнткам… Былі такія благія мужыкі ў Крывічах. Прыйшлі, забілі і спалілі. А сын тым часам быў у Польшчы, служыў у легіёне і ваяваў з бальшавікамі. Вярнуўшыся з войска, вырашыў даведацца: хто забойцы яго бацькі? Прагнуў адпомсціць. Пачаў чытаць кніжку чорнай магіі. Клаўся ў дамаўё, якое было на гарышчы і пачынаў чытаць. Дачытваў да пэўнага месца і далей не мог чытаць… Так ён нічога і не даведаўся.

Тата некалі працаваў у сына графа У. Берастоўскага. Сябраваў з ім. Ён тату ўсё тое распавёў.

Хваліў тата сына графа. Дужа добры чалавек быў. А вось пра пана з Задарожжа, які жыў каля касцёла, адгукаўся не вельмі добра.

**У.С.:** Я ўсё ж вымушаны ўдакладніць. Інакш нашыя чытачы заблытаюцца! Я так разумею, што Вы маеце на ўвазе пана Пяркоўскага, які як раз і жыў побач з касцёлам. Той маёнтак называлі – Мнюта–ІІ. Берастоўскія спачатку, пакуль іх дом разам са старым графам не спалілі, жылі ў Шепелеве, а потым яны (сям'я сына) перабраліся ў Мнюту-І.

**Л.Б.:** Усё так! Пяркоўскі жыў каля касцёла. Дык вось, пайшоў бацька лавіць рыбу сеткай на возера Мнюта. А задарожскі пан яго злавіў. Хацеў засудзіць. Суд адбыўся ў Вільні. І граф Берастоўскі паехаў у Вільню на суд і абараніў бацьку. І сказаў, што ён не лавіў рыбу ў возеры, а выконваў яго заданне – капаў яму канал і на абутку ў яго быў пясок. А так бы Пяркоўскі пасадзіў тату.

Вельмі добразычлівы быў граф Берастоўскі. Вось, напрыклад, неўраджай. Няма зерня на хлеб ці бульбы. Ідуць да графа – бяруць у доўг. Потым ідуць адпрацоўваць.

І тата хадзіў адпрацоўваць. А граф – аддае за працу грошы.

– Дык я ж вінен вам! – кажа тата.

– Ай-й-й, ладна! – пярэчыць граф,– вы ж працавалі ў мяне… Дараваў доўг.

**У.С.:** Ведаеце, у свой час (02.10.2006) я сустракаўся са старажылам вёскі Шэпелева Казімірам Казлоўскім, які, па яго словах, працаваў у графа Уладзіміра Берастоўскага** млынаром. Гэта ягоны бацька загінуў ад рук крывіцкіх мужыкоў. І спадар Казлоўскі таксама вельмі хваліў графа У. Берастоўскага: "Зойдзе ў хату, пасядзіць, пагаворыць, і бульбіну з намі з'есць!" У выніку той сустрэчы са спадаром Казлоўскім мною быў напісаны матэрыял "Панама". Быў жа ў Шэпелеве свой Панамскі канал, і маёнтак называўся Панама.

**Л.Б.:** Так. Мой тата сябраваў з Казлоўскім.

**У.С.:** Але вернемся да тэмы… Вы кажаце, што косткі шкілета былі неверагодна вялікія!

**Л.Б.:** Так! Іх жа бралі ў рукі і "прымервалі" да сябе. Напрыклад, прамянёвыя косткі на руках, гэтак жа і на нагах, былі ў два разы даўжэйшыя, нават у параўнанні з самым высокім чалавекам вёскі – Шпакоўскім! Усе насіліся па вёсцы з гэтымі косткамі і мерылі адзін у аднаго. Людзі тыя волатамі былі!

Ды й на нашым гародзе (у Шэпелеве) невядома, што даўней было. Знаходзілі часта дужа перапаленыя камяні. Мо лазня якая некалі была? Але пра тое ўжо ніхто не мог узгадаць.

**У.С.:** Мне падаецца так, што тая гара над рэчкай Мнютай усё ж была курганам, які насыпаны ўручную над пахаваннем волата. Валатоўкай! Бо гэта выглядала б лагічна, зыходзячы з прыкладаў іншых пахаванняў – каля вёсак Зябкі і Шо.

**Л.Б.:** Ці была гэтая гара насыпанай – я так дакладна цяпер і не ўспомню. Мо і насыпанай… І лес над ракой рос. Там, дарэчы, былі пахаванні не аднаго чалавека. Праўдападобна, косткі там яшчэ некаторыя і чарапы вялікія – да сёння засталіся ляжаць…

**У.С.:** Дзякуй Вам за цікавы аповяд! Гэта яшчэ раз даказвае, што волаты – не толькі персанажы казак і былін, волаты ў рэальнасці існавалі.

* «ВГ», №20 (528) 20 траўня 2010 г.

** Спадар Казлоўскі называў яго Уладзімірам, хаця ў польскіх крыніцах таго часу гаспадар маёнтка Мнюта-І называецца Уладзіславам Берастоўскім (Brzostowski).

---

**Наркотик приносит вред телу, разрушает разум, отупляет целые нации.**

*Оноре Де Бальзак*

# Шматгадовая асалода смерцю

■ Дз.А. Марціновіч, *псіхолаг ТЦСАН*

Наркаманія - адно з самых страшных праклёнаў роду чалавечага. Гэта захворванне, звязанае з ужываннем наркатычных сродкаў і якое праяўляецца ў неадольнай цязе да іх. Справа складаецца ў тым, што калі чалавек пачынае карыстацца наркотыкамі у маладосці, шанцаў дажыць да 30 у яго практычна няма, нават калі да пачатку сваёй згубнай прыхільнасці ён адрозніваўся атлетычным здароўем. У залежнасці ад наркатычнага рэчыва, якое выклікае тую ці іншую форму наркаманіі, можна вылучыць сем асноўных відаў наркаманіі.

І. Опіумная наркаманія. Звязана з прыёмам прэпаратаў, вырабляемых з опіуму.

ІІ. Наркаманія, звязаная з ужываннем канопляў.

ІІІ. Какаінавая наркаманія. Звязана з ужываннем какаіну.

IV. Наркаманія, абумоўленая прыёмам прэпаратаў снатворнага дзеяння.

V. Наркаманія, звязаная з ужываннем вялікіх канцэнтрацый гарбаты і кавы.

VI. Наркаманія, звязаная з ужываннем галюцынагенаў.

VII. Алкагалізм і тытунекурэнне. Па ўздзеянні на арганізм таксама ўяўляюць сабою класічныя віды наркаманіі. З'яўляюцца найбольш небяспечнымі з-за сваёй агульнадаступнасці, так званыя ў грамадстве «легалізаваныя наркотыкі».

Шматлікія, вырастаючы фізічна, яшчэ застаюцца дзецьмі псіхалагічна. І вось такімі псіхалагічнымі дзецьмі з'яўляюцца практычна ўсе хімічна залежныя людзі. Як толькі чалавек пачынае звяртацца да рэчываў супакойваючых, рэчывам, якія даюць часовае адчуванне сілы, ён перастае расці сам, ён як бы карыстаецца сублімаваным каханнем. Бо звяртаючыся да наркотыкаў, ён шукае ўсяго толькі кахання. Чаму? Каханне - гэта тое, што робіць нас мацней, робіць лепш, такі самападман адбываецца з чалавекам, калі ён прыме наркотык. Спачатку гэта цяга звычайна няўстойлівая і выяўляецца ў выглядзе прыемных успамінаў пра наркотык, пра само ап'яненне і адчуванні пры гэтым. Менавіта таму хворыя, сабраўшыся разам, вельмі часта з захапленнем распавядаюць адзін аднаму пра тое, як яны праводзілі «вольны» час, што адчувалі пры гэтым. Такія калектыўныя «дыскусіі» абумоўлены менавіта наяўнасцю ўтоенай цягі да наркотыка. У другой стадыі хваробы цяга набывае дакучлівы характар. Думкі пра жаданне спажыць наркотык набываюць застойны, які дамінуе, характар. Усе намеры хворага накіраваны на здабыванне наркотыка. Ён спрабуе неяк змагацца з жаданнем, аднак у сувязі з неадступнасцю гэтага жадання, недахопам волі, даступнасцю атрымання, ён зрываецца. У позняй стадыі цяга становіцца нястрымнай і непераадольнай. Усялякая барацьба з дакучлівымі ідэямі спыняецца. Гэты стан параўноўваецца з пачуцём смагі. Хвораму здаецца, што калі ён не вып'е ці не спажыве наркотык, ён памрэ. У сувязі з такой непераадольнай цягай ні пра які самакантроль за ўжытымі дозамі казаць ужо не даводзіцца.



Узаемаадносіны, уклад жыцця ў сям'і з'яўляюцца важным фактарам, якія падвышаюць рызыку далучэння падлетка да наркатычных сродкаў. Калі падлетак адчувае сябе у сям'і лішнім, то ён шукае выратаванне на вуліцы. Менавіта там, у вулічных кампаніях, ён знаходзіць для сябе «аўтарытэты», якіх, на жаль, не змагла даць ні сям'я, ні школа. Для яго наркотыкі – гэтыя ўцёкі ў рознакаляровы рай, сыход з сумнай хаты і дакучлівай школы. Вулічная кампанія для падлетка становіцца як бы другой сям'ёй, дзе ён адчувае сябе значна ўтульней, чым у сям'і.

Вы самі робіце сваё жыццё і не шукайце лжывых і пустых прасвятленняў. Развівайце сваё цела, займайцеся фізічным развіццём, духоўным, будзьце маральнымі людзьмі, паважайце старэйшых, слухайце бацькоў сваіх, не ідзіце з натоўпам, будзьце пакорлівымі ў сваіх жаданнях і тады вы зможаце зразумець праўдзівы сэнс жыцця!

# Прэс-канферэнцыя ў Віцебску

■ **Кс. Віктар Місевіч,** тэкст і фота.

**18 красавіка ў Віцебску прайшла прэс-канферэнцыя з удзелам біскупа Уладзіслава Бліна. Сустрэча адбылася ў душпастырскім цэнтры пры парафіі Езуса Міласэрнага. Былі прадстаўнікі мясцовых друкаваных СМІ, а таксама супрацоўнікі тэлебачання і радыё.**



Біскуп Уладзіслаў павіншаваў прысутных з блізкімі Пасхальнымі Святамі і падзяліўся сваёй радасцю з нагоды адзінства ўсіх хрысціянаў у святкаванні Вялікадня. Кс. Юрый Жаўняровіч коратка нагадаў гісторыю паўстання Віцебскай дыяцэзіі і распавёў пра чэрвеньскія ўрачыстасці. 18 чэрвеня з волі Святога Айца Бэнэдыкта XVI касцёл Езуса Міласэрнага будзе ўзнесены да тытулу катэдры Віцебскай дыяцэзіі. Гэтыя святкаванні будуць спалучаны з Эўхарыстычнай працэсіяй Божага Цела па вуліцах Віцебска.

Кс. Віктар Місевіч, адказны за СМІ ў Віцебскай дыяцэзіі, прэзентаваў прысутным дыяцэзіяльную газету "Каталіцкі Веснік". Газета атрымала рэгістрацыю Міністэрства інфармацыі і будзе выходзіць штомесяц. У ёй плануецца асвятляць падзеі з жыцця Віцебскай дыяцэзіі. Кс. Віктар распавёў пра супрацоўніцтва з абласной тэлекампаніяй "Віцебск". Сумеснымі намаганнямі каталікоў Віцебшчыны і супрацоўнікаў тэлекампаніі выходзіць штомесяц перадача "Вытокі". У ёй асвятляюцца значныя падзеі з жыцця Каталіцкага Касцёла ў Віцебскай дыяцэзіі. Дарэчы, праглядзець усе перадачы "Вытокі" з каталіцкай тэматыкай можна ў архіве партала catholic.by.

Падчас свайго выступу кс. Віктар расказаў пра візіт у Мінск старшыні Папскай рады па СМІ арцыбіскупа Клаўдзё Марыя Чэллі. Кожны з удзельнікаў прэс-канферэнцыі атрымаў падрабязную праграму яго візіта.

Айцец Пётр Фраштэнга OCD засярodзіў увагу прысутных на пытаннях сямейнай праблематыкі і расказаў пра стратэгію Каталіцкага Касцёла на гэтым напрамку.

Затым перад прысутнымі выступіў кс. Аляксандр Дулінец. Ён расказаў пра VII міжнародную медыцынскую канферэнцыю "Праблемы ўрачэбнай этыкі ў сучасным свеце", якая пройдзе ў Віцебску 26-27 мая 2011г. У ёй прымуць удзел госці з Індыі, Італіі, Кітая, Швейцарыі і інш. замежных краін, а таксама з Беларусі. Канферэнцыя арганізоўваецца намаганнямі Віцебскай дыяцэзіі і Віцебскага аблвыканкама.

Завяршылася прэс-канферэнцыя пачастункам пры каве і сяброўскімі размовамі.

# Каталікі правялі Крыжовы шлях на вуліцах Докшыц

■ **Кастусь Шыталь**

**У Вялікую Пятніцу докшыцкія каталікі правялі Крыжовы шлях па вуліцах горада. Каля двух сотняў вернікаў прайшлі ад касцёла да могілак, успамінаючы шлях Ісуса Хрыста на Галгофу.**

Наперадзе калоны неслі крыж, а побач з ім – дзве запаленыя паходні. Вернікі трымалі ў руках запаленыя свечкі. Па шляху зрабілі чатырнаццаць прыпынкаў, падчас якіх узгадвалі асобныя эпізоды пакутаў Хрыста.

Крыжовы шлях доўжыўся дзве гадзіны. Удзел у ім узялі людзі розных узростаў. Шмат было дзяцей, сярод удзельнікаў



можна было пабачыць і маладзёнаў.



Пасля сканчэння Крыжовага шляху вернікі памаліліся аб вечным супакоі для душаў памерлых, якія спачываюць на докшыцкіх могілках.

# Вялікая Серада ў катэдры св. Барбары ў Віцебску



■ **Кс. Віктар Місевіч,** тэкст і фота.

У Вялікую Сераду ў катэдры св. Барбары ў Віцебску адбылася св. Імша Хрызма з удзелам духавенства Віцебскай дыяцэзіі. Падчас набажэнства быў асвечаны алей, які ўжываецца пры ўдзяленні сакрамэнтаў хросту, канфірмацыі, святарства і намашчэння хворых. Літургію ўзначаліў біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. Ён заахвоціў прысутных святароў быць вернымі ідэалам святарства і быць сапраўднымі вучнямі Хрыста.

Святары падчас літургіі дзякавалі за пакліканне да святарства – самы вялікі дар, які можа атрымаць чалавек, дар дзейнічаць ад імя Езуса Хрыста. Таксама духавенства аднавіла абяцанні, дадзеныя падчас святарскіх пасвячэнняў.



Гамілію прамовіў а. Раман Шульц OP. Ён прапанаваў святарам успомніць надпісы з прыміцыйных абразкоў і паразважаць над істотай свайго паклікання.



Напрыканцы сустрэчы біскуп Уладзіслаў папрасіў перадаць словы запрашэння ўсім дыяцэзіянам на ўрачыстасць абвяшчэння новай катэдры. Гэтая падзея адбудзецца 18 чэрвеня ў Віцебску. Чакаюцца шматлікія госці з Беларусі, а таксама з-за мяжы.

Кс. Віктар Місевіч прэзентаваў прысутным новую газету "Каталіцкі Веснік". Ён распавёў святарам некаторыя моманты па распаўсюду газеты і запрасіў да суаўтарства. Кс. Вячаслаў Барок прадставіў інфармацыю пра дыяцэзіяльныя пілігрымкі па святых месцах свету, якія арганізоўвае парафія св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах. Не абышлося і без спартыўных навін. Кс. Аляксандр Грыцкевіч з Дзісны запрасіў на міністранцкія спаборніцтвы па мініфутболу на кубак біскупа Уладзіслава Бліна, якія адбудуцца ў Дзісне 14 мая.

Выступіў таксама Архімандрыт Сяргей Гаек. Ён прэзентаваў кнігу а. Язэпа Германовіча "Як Казюк сабраўся да споведзі" і павіншаваў усіх святароў з днём святарства.

■ Яўген Самсонаў

# Калі не з’ем, дык пакусаю

**А што заставалася рабіць слаўным аматарам валейбольнага мяча працоўнага калектыву энергетыкаў напрыканцы чэмпіянату Глыбоцкага раёна па валейболу, які праходзіў з 28 сакавіка па 20 красавіка ў спартыўнай зале ДЮСШ.**

Каманда “Камерсант” укамплектаваная лепшымі ігракамі, былымі выхаванцамі трэнера І.І.Дубіны, як танк “змятала” ўсіх супернікаў на шляху да фінішу. Толькі расслабіўшыся, у апошняй гульні прайграла камандзе ПМК-48. Але гэта ніяк не паўплывала на вынік спаборніцтваў. Яны заслужаныя чэмпіёны, а будаўнікі таксама заслужана атрымалі срэбра.

Выхаванцы ДЮСШ таксама азмрочылі ГЭСаўскіх майстроў 2:1.



Каманда “Камерсант” – пераможца спаборніцтваў.


Капітан каманды МКК С. Сакалоўскі

Апошняга шанцу трапіць у лік прызёраў у перадапошім туры з камандай МКК іх пазбавіў адзін ігрок з каманды супернікаў. Прозвішча прасіў не называць, а хто прысутнічаў на сустрэчы выдатна бачыў. Звыш двух дзясяткаў ударных падач зрабілі ігру ў гэтай сустрэчы.

Затое ў апошнім туры, хоць ён нічога вельмі значнага і не вырашаў, упартыя энергетыкі адвялі душу на камандзе РАУС, выйграўшы з лікам 2:0. Пазбавілі іх бронзавых медалёў, а дазволілі стаць трэцім прызёрам першынства раёна былым крыўдзіцелям – камандзе МКК.

■ С.В. Ильющеня,
*помощник начальника Глубокского отдела Департамента охраны МВД Республики Беларусь по идеологической работе и кадровому обеспечению майор милиции.*

# СЛУЖИМ ЛЮДЯМ

О Глубокском отделе охраны…

Сегодня Глубокский отдел охраны – это мобильная, технически оснащенная и хорошо вооруженная служба, способная успешно решать задачи по обеспечению сохранности всех сфер собственности, вносить весомый вклад в борьбу с преступностью, обеспечение охраны конституционных прав и свобод граждан.

В подразделении имеется автомобильная техника, необходимые технические средства охранной сигнализации, вооружение, современные средства связи.

Отдел занимается охраной всех видов объектов, принадлежащих субъектам хозяйствований различных форм собственности, мест хранения личного имущества и квартир граждан, охрана физических лиц, монтаж и обслуживание средств охранной, пожарной и тревожной сигнализации, экспертиза и консультации по охранным услугам, лицензирование охранной деятельности.

**Социальные гарантии сотрудника милиции…**

1. Стабильная заработная плата, гибкая система премирования и поощрения личного состава;

2. Обязательное государственное страхование сотрудника за счет республиканского бюджета от всевозможных рисков;

3. Гарантированное предоставление детям сотрудников мест в дошкольных учреждениях образования в течение трех месяцев со дня обращения;

4. Предоставление сотрудникам, имеющим выслугу не менее 5 лет, права на использование льготного кредита для строительства (реконструкции) или приобретения жилья, сроком от 20 до 40 лет, с платой за пользование этим кредитом в размере 5% годовых;

5. Возможность выделения сотрудникам «служебного жилья»;

6. Бесплатное медицинское обслуживание в организациях здравоохранения органов внутренних дел, как самих сотрудников, так и членов их семей;

7. Сотрудникам ежегодно предоставляется основной отпуск продолжительностью от 30 до 45 суток (в зависимости от выслуги лет), а также предусмотрено использование дополнительных (социальных) отпусков: за особый характер службы, по болезни, в связи с обучением в учреждениях образования, по причинам личного и семейного характера. Проезд к месту проведения основного ежегодного отпуска и обратно оплачивается.

8. Сотрудники имеют право на пенсионное обеспечение по достижении 45-летнего возраста с учетом выслуги на службе 20 и более лет, а так же с учетом стажа работы 25 и более календарных лет, из которых не менее 12,5 лет составляет служба в органах внутренних дел.

9. Действующие сотрудники, пенсионеры МВД и члены их семей могут ежегодно пользоваться правом на льготы при получении путевок для санаторно-курортного лечения и оздоровления в размерах, установленных действующим законодательством. Несовершеннолетние дети сотрудников ОВД имеют право на бесплатное лечение и оздоровление.

**Прохождение службы в органах внутренних дел…**

1. При поступлении на службу в органы внутренних дел с сотрудником заключается контракт сроком на 5 лет;

2. Для несения службы сотруднику выдается форменное обмундирование, заработная плата исчисляется в зависимости от занимаемой должности, специального звания и выслуги лет;

3. Имеются необходимые условия для повышения своего профессионального уровня, физической подготовленности. Ежегодно проводятся чемпионаты, соревнования и переподготовка сотрудников;

4. Сотрудникам предоставляется право на повышение своего образовательного уровня в учреждениях образования системы МВД, а при необходимости в учреждениях образования других Министерств и ведомств;

5. Созданы условия для самореализации сотрудников в областях деятельности не связанных со службой, проводятся коллективные экскурсии, культурно - массовые спортивные мероприятия.

6. Перспективные сотрудники, проявляющие себя с положительной стороны, представляются к награждению государственными наградами, знаками отличия системы МВД РБ. Действующим законодательством помимо присвоения специальных званий начальствующего состава по истечении установленной выслуги, предусмотрено присвоение очередных специальных званий досрочно и на одну ступень выше установленного по занимаемой должности.

**Требования к кандидатам…**

Мужчины, имеющие высокие и морально-деловые качества в возрасте до 25 лет, являющиеся гражданами Республики Беларусь.

**Необходимые условия…**

- наличие среднего, среднего технического или среднего специального образования;
- отсутствие судимости;
- годность к прохождению службы по состоянию здоровья;
- хорошая физическая подготовка.

**Приоритетом пользуются…**

Кандидаты, прошедшие срочную военную службу в Вооруженных силах Республики Беларусь.

Глубокский отдел Департамента охраны МВД Республики Беларусь приглашает молодежь, окончившую школу, для получения консультаций и подготовки документов, для поступления в высшие учебные заведения МВД Республики Беларусь.

Если Вас заинтересовали наши предложения, обращайтесь в Глубокский отдел Департамента охраны МВД Республики Беларусь по адресу: г. Глубокое, ул. Минская, 1, тел. 2-14-73; 2-12-63.

# МНС інфармуе:

**(па стану на 26.04.2011 г.)**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 538;
Гібель людзей – 104, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 2 320 590 тыс. руб.;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 199 186 470 руб.

## Памёр яшчэ адзін пацярпелы ад тэракта ў мінскім метро

**Колькасць ахвяр тэракта ў мінскім метро ўзрасла да 14 чалавек. Сёння раніцай у бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі памёр Віталь Дайнэка, 1970 года нараджэння, які жыў у Мінску.**

Цяпер у бальніцах на стацыянарным лячэнні знаходзяцца 92 чалавекі, з якіх дзевяць – у цяжкім стане, 19 – сярэдняй ступені цяжкасці.

Пацыенты атрымліваюць неабходную медыцынскую дапамогу ў поўным аб`ёме, адзначаюць у Міністэрстве аховы здароўя. У начны час для назірання за пацярпелымі ў бальніцах узмоцнены брыгады дзяжурных урачоў. Ва ўсіх лячэбных установах ёсць дастаткова запасаў перавязачнага матэрыялу і медыкаментаў, донарскай крыві. Арганізавана кругласутачнае дзяжурства персаналу на аптэчных складах для апаратыўнага папаўнення бальніц неабходнымі лекавымі сродкамі. Забяспечваецца псіхалагічная падтрымка пацярпелых і іх блізкіх.

Нагадаем, у выніку выбуху ў мінскім метро 11 красавіка пацярпела агульным лікам больш за 200 чалавек. З іх 14 загінулі, 167 былі шпіталізаваныя.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

## Сярод пацярпелых падчас тэракту ў метро – юнак з Шаркоўшчыны

■ Кастусь Шыталь

**Сярод пацярпелых падчас тэракту на станцыі метро «Кастрычніцкая» ёсць яшчэ адзін наш зямляк - 20-гадовы Іван Якімовіч з Шаркоўшчыны.**

Аўтар гэтых радкоў паразмаўляў з Веранікай, роднай сястрой Івана. Як яна распавяла, Іван атрымаў сатрасенне мозгу, шматлікія гематомы, раненні рук і ног. Хлопец знаходзіцца ў клінічнай бальніцы №5 г. Мінска.

Вераніка пераказала расповед бацькоў, якія сёння наведалі Івана: «Скардзіцца на галаўны боль і кружэнне галавы. Ён казаў, што яго вынеслі з месца трагедыі. Абутку на ім не было, ногі былі ўсе ў крыві».

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

2 – 8 траўня 2011 г.













Вы можаце пададць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 2 траўня



**07.15 Мультфильмы.**
**07.50** «Доброе утро, Беларусь!».
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**09.10** «Через всю войну к Победе». Концерт ансамбля «Песняры».
**10.50 «Сваты-4 «**
**12.10 «Принцесса цирка»**
**15.20** Новости региона.
**15.35** «Синематека». «Судьба». Ростислав Янковский.
**16.15 «Май»**. Мелодрама (Россия).
**18.10** «Арена».
**18.30** «Окно в Европу».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Новая волна-2011» и «Детская Новая волна - 2011». Гала-концерт. Избранное. Часть 2-я.
**20.30** «Панорама».
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Латвия - Финляндия. Прямаятрансляция.
**23.30** «Проверка слухов»
**00.00**Премьера.**«Только не сейчас»**.



**07.00** «Наше утро».
**08.00,09.00**Нашиновости.
**09.05** Контуры.
**10.10 «Белые росы»**.
**12.00** Тележурнал «Союз».
**12.30** «Большая разница» в Одессе. Фестиваль пародий.
**16.00** Наши новости
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Только ты...». Концерт Стаса Михайлова
**18.00**«Обратныйотсчет». «Фактор «Ч». Ликвидация».
**18.35** Мег Райан в фильме **«В стране женщин»**. США, 2007 год.
**20.30** Наши новости.
**20.55** Новости спорта.
**21.00** ДОстояние РЕспублики: А. Макаревич».
**23.25-01.25 «Модильяни»**.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»**
**09.05** Трансляция беатификации Папы Римского Иоанна Павла II.
**10.35** Пра мастацтва.
**11.10 «Терминал»**
**13.30** Час суда. Дела семейные.
**14.35** Военный боевик **«Покушение»** (Беларусь). 5-я и 6-я серии.
**16.25** «Дети нового поколения». 10-е классы.Вторая игра.
**17.30** «Навіны надвор'я».
**18.00 «Ты моя жизнь»**
**19.05** Шпионская комедия «Человек, который слишком мало знал» (США-Германия).
**20.50** Телебарометр.
**20.55** Вечер с Максимом Галкиным (Россия).
**00.15** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.



**05.45** «Званый ужин».
**06.35** «Утро. «.
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.15 «ЧЕЛОВЕК – АМФИБИЯ»**.
**12.05** «Звездный ринг». Группа «Tanin jazz» против группы «Талант».
**13.25** «Кино»: **«ТРОЕ В ЛОДКЕ НЕ СЧИТАЯСОБАКИ»**.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.40** «Наше дело».
**16.50** «Званый ужин».
**17.45** «Кино»:**«НЕ ХОЧУ ЖЕНИТЬСЯ!»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** «Добрый вечер, малыш».
**20.20** «Кинопонедельник»: **«ГРАНИЦА. ТАЕЖНЫЙ РОМАН»**. Россия, 2000 г.
**22.50** «Столичный футбол».
**23.20** «Кино»: **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ»**.



**БЕЛСАТ tv**

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:35 "Італьянец»**
**9:25** "Ян Павал ІІ і ягоны сябар»
**10:15** ПраСвет
**10:40** Басанож па свеце
**11:05** Моўнік
**11:15**«Старадаўнія інструменты Беларусі»
**11:30** Эксперт
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** "Італьянец»
**13:55** "Ян Павал ІІ і ягоны сябар»
**14:45** ПраСвет
**15:15** Басанож па свеце
**15:40** Моўнік
**15:50** «Старадаўнія інструменты Беларусі»,
**16:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Эміль з Лёнэбэр'і»**: 3 серыя
**17:30 "Час гонару»**: 27 серыя
**18:20** Хто ёсць кім?: «Ігар Неўпакоеў»
**18:35** Прэс-экспрэс
**19:00** «Сабачая будка», дак. фільм
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:25** «Дзень памінання», дак. фільм
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45** "Італьянец»
**23:30** Аб'ектыў
**23:50** Гарачы каментар

